


*У 525-ыя ўгодкі в.Альпень*
*Столінскага раёну*

# Àльпенскі дыялектны слоўнік

*ВЫКАЗВАЕМ ШЧЫРУЮ ПАДЗЯКУ*
*канд. філалагічных навук*
*ЕМЕЛЬЯНОВІЧ Веры Міхайлаўне,*
*дацэнту кафедры гісторыі беларускай*
*мовы і дыялекталогіі*
*Брэсцкага дзяржаўнага універсітэту імя А.Пушкіна,*
*за парады і дапамогу ў падрыхтоўцы*
*слоўніка да друку*

Берасьцейская гарадская Рада
ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»
Берасьцейскае аддзяленне МГА «Гісторыка»

**Іван ЛЯШКЕВІЧ**

# Àльпенскі дыялектны слоўнік

Альпень-Берасьце
2004

**ББК 81.411.3-5**
**Л99**

Б і б л і я т э к а
**СТАРОГА ГОРАДУ**

*Серыя 2. ПАЛЕСКІ КУФЭРАК, 1.*

*Заснавана ў 2004 годзе*
*ГА «Стары горад», Берасьцейскай гарадской Радай*
*ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны»*
*і Берасьцейскім аддзяленнем МГА «Гісторыка»*

**Ляшкевіч І.Ул.**

**Л99** Альпенскі дыялектны слоўнік.— Альпень-Берасьце, 2004.— 36 с. — (*Бібліятэка Старога Гораду: Палескі куфэрак, 1*).

Гэты дыялектны слоўнік – спроба захавання моўных скарбаў народу, часцінкай якога з’яўляюцца і жыхары в. Альпень, што на Століншчыне. У ім змешчана каля 375 словаў. Будзе цікавы настаўнікам, вучням, краязнаўцам і ўсім, хто любіць і шануе роднае слова, свой край, сваю малую Радзіму.

# Альпенскі дыялектны слоўнік

Гэты слоўнік – першая спроба захавання моўных скарбаў народу, часцінкай якога з'яўляюцца і жыхары в. Альпень, што на Століншчыне. У яго ўвайшлі дыялектныя словы, якія, як правіла, значна альбо вельмі значна адрозніваюцца ад агульнапрынятых літаратурных. Не ўключаны ў слоўнік словы, якія ад беларускіх літаратурных адрозніваюцца вельмі мала. Напрыклад, не ўвайшлі ў слоўнік дзеясловы, неазначальная форма якіх у беларускай мове заканчваецца на *-ць*, а ў альпенскай гаворцы на *-ть*. Гэта словы тыпу *шукаць – шукать, рабіць – робіть, насіць – носіць* і г. д. Для альпенскай гаворкі характэрна оканне, а не аканне. Такія словы таксама ў слоўніку не прыводзяцца, таму што ў такім выпадку слоўнік быў бы вялікі памерам, але мала адрозніваўся б ад слоўніка літаратурнай беларускай мовы. Напрыклад, няма слоў тыпу *карова – корова, галава – голова і* т.п.

Дзеясловы пададзены ў неазначальнай форме, назоўнікі – у назоўным склоне адзіночнага ліку.

Усе словы ілюструюцца прыкладамі з мясцовай гаворкі.

Слоўнік складзены на базе картатэкі слоў, што сабралі вучні 7-9 класаў Альпенскай няпоўнай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам настаўніка школы Івана Ляшкевіча.

Работа гэтая зроблена з мэтай адраджэння цікавасці да роднай мовы, з надзеяй, што яна будзе патрэбная настаўнікам, вучням, краязнаўцам і ўсім, хто любіць і шануе роднае слова, свой край, сваю малую Радзіму.

***І. Ул. ЛЯШКЕВІЧ***
*настаўнік Альпенскай БШ*

Прынятыя скарачэнні:

*абразл. – абразлівае*
*выкл. — выклічнік*
*груб. – грубае*
*ж. – жаночы род*
*займ. – займеннік*
*зак. – закончанае трыванне*
*зб. – зборны назоўнік*
*зневаж. – зневажальнае*
*лаянк. – лаянкавае*
*м. – мужчынскі род*
*мн. – множны лік*
*н. – ніякі род*
*незадав. – незадавальняльнае*
*незак. – незакончанае трыванне*
*пагард. – пагардлівае*
*перан. – пераноснае значэнне*
*прым. – прыметнік*
*прыназ. – прыназоўнік*
*прысл. – прыслоўе*
*часц. – часціца*
*экспр. – экспрэсіўнае*

# А

**А́ЙСТРА** *ж.* Астра. *Айстры разным цветом тьвітуть.*

**АЛЕ́БРА** *часц.* Так, але. *Алебра, ты праўду казаў.*

**АЛО́Х** *м.* Капут, канец. *Думаў, алох буде тому сену, шчо день дождж.*

**АЛЮ́ШКІ АЛЮ́Ш** *выкл.* Вокліч, якім паганяюць кароў. *Алюшкі на пашу, рабка!*

**АТ СОБЕ́** *выкл.* Ат сабе. *Бульба ат собе ў прошлом году ў мане была.*

# Б

**БА́БА** *ж.* **1.** Старая жанчына, бабуля. *У Ольпэні самые бабы.* **2.** *перан.* Бязвольны мужчына. *Вон у ее худжэй бабы.*

**БАБЗНО́** *н., зневаж.* Няўклюдная, грубая жанчына. *Та рублянка гэ некэ бабзно нехорэмнэ.*

**БА́БКА** *ж.* **1.** Камякі з тоўчанай бульбы.*Тая бабка ўжэ ў ее околела на столе стоя.* **2.** Бабка для кляпання касы. *Е бабкі гострые і плоскіе.* **3.** Грыб. *Я тых бабок грыбоў не знаю дайжэ.***4.** *памянш.* ад бабуля. *Ты не спіш, бабко?*

**БА́БОЧКА** *ж.* **1.** Матылёк. *Нейкіх бабочок у хату налетело морэ.* **2.** *памянш*. ад бабуля. *Вона бабочка така нека чыста, культурна.*

**БАГУ́К** *м.* Свіны страўнік, начынены мясам з прыправамі. *Я з'ела багука за тыжджэнь.*

**БАЙСТРУ́К** *м.* Незаконна народжаны. *Байструк – гэто не ганьба.*

**БАЛА́ГАН** *м.* Непарадак, шум, вэрхал. *Шо то за балаган деті ўстроілі там, іді глянь!*

**БА́ЛО** *прысл.* Бывала. *Колісь мы, бало, тожэ чоўплі дурніцу разну, а на детей тепэр крычымо.*

**БАРАМЭ́Т** *м.* Барометр. *Як твой барамэт, на погоду чы не?*

**БАРЭ́МОК** *м.* Бярэмак. *Кінь сена там корові барэмок.*

**БАСТЫ́ДНЫ** *прым.* Бессаромны. *Деті слухають, а вон ляпае абы шчо, бастыдны.*

**БА́ХАТЬ** *зак.* Спаць *(у размове з дзецьмі). Діма, ході бахать ужэ.*

**БОБ** *м.* Фасоля. *Я бобу цэлы машок напахала.*

**БОЛВАНЕ́ТЬ** *незак.* Невыразна бачыцца. *А быў досвіток. І бачу я – шчо-то болванее, чы чоловек, чы худобіна?*

**БОЎКУ́Н** *м.* Драўляны звон для скаціны, каб адшукваць яе па гуку. *По корчах короў паслі з боўкунамі.*

**БОЎТУ́Н** *м.* Ненайгранае яйка, што сапсавалася пры наседжванні. *Некі певэнь негодяшчы ў мане, почті ўсе яйца боўтуны былі.*

**БУЛЕ́КА** *ж.* Няўмека. *Вона така булека!*

**БУ́МКАЛО** *н.* Дзіцячая гульня, груз на доўгай нітцы, якім ударалі па акну. *Хлопцы увэчары ходять да бумкала робять.*

**БЎРКАЛО** *н.* **1.** Адна з костачак у свінячай назе. *Седеў на пачэ да граў з буркал*ом. **2.** Варкатлівы чалавек. *Мой стары такэ буркало, такі надоедны.*

**БЎРКІ** *зб.* Від валёнак. *Я буркі подшыў рамэнем.*

**БЎСЬКО** *м.* Бусел. *Бусько прылетеў, на буська захолодало.*

**БЎСЯТЬ** *незак.* Цалаваць *(у размове з дзецьмі)*. *Дай побусяю Дімку, да пойде бахать хлопчык хорошы.*

**БЭЗУГÁВУ** *прысл.* Бесперапынна. *Шчо ты мне бэзугаву тэ самэ тоўчыш?*

**БЭ́ЛЕНЬ** *ж.* Вельмі горкая расліна, відаць, палын. *Сматана горка бы бэлень, не можна есті.*

**БЭ́РДО** *н.* Бёрда. *Деті прышлі до мане, да бэрдо ім дала, воны старыну ў школу збірають.*

# В

**ВАДРÓ** *н.* Вядро. *З пустым вадром дорогу парайшла.*

**ВАЖКÍ** *прым.* Цяжкі. *Некі важкі хлеб, мо сыры, ті шчо.*

**ВАЛІДЎЗНЫ** *прым.* Надзвычай вялікі, велічэзны. *За Турскім е лесок такі, там быў лагер колісь, от там валідузные вужэ мы бачылі.*

**ВАЛÍЗНЫ** *прым.* Вялізны. *Над ракой дубы валізные рослі, шчэ мо послі войны воны былі.*

**ВАЛÍКОННЕ** *н.* Вялікдзень, Пасха. *Парад Валіконнем яйца красять.*

**ВАЛÍСКА** *ж.* Чамадан. *Раньшэ валіскі звалі, а тепэр чумайдан.*

**ВАРАШЧÁКА** *ж.* Верашчака. *Варашчаку з мукі робілі, зажарвалі салом, мясо крышылі, варылі ўсе.*

**ВАРХОВО́Д** *м.* Від рыбы. *Варховодоў ловілі да на жыўца хавалі ў банку з водою.*

**ВА́ЎКА** *ж.* Нарыў, загнаенне. *У Юры Галаёвого ваўка ўжэ заговілас.*

**ВІД** *м.* Твар. *Увэсь від у сажы, а вона, смехоўе цэлэ, у магазін прыбегла.*

**ВІЛЬГО́ТА** *ж.* Ільгота. *У магазін прыйді, то ўсе кажуть, шо ім вільгота, да ніхто ў очарадзі не стоіть.*

**ВОЛО́КА** *ж.* Валока, абора для лапцей. *Волокамі постолы к нозе крутілі.*

**ВОЛО́ШНЯ МАЖА́** *ж.* Грань паміж суседнімі палямі, загонамі. *Волошня мажа пустовала, гэто граніца.*

**ВОРОТІ́ЛО** *н.* **1.** Дэталь кроснаў. *На воротіло полотно намотвалі.* **2.** Непаваротны, маларухомы чалавек. *Вон бы воротіло быў, але здоровы быў, ек конь.*

**ВОРО́ЎКА** *ж.* Вяроўка. *Ольпенцоў дражнять іншы раз машок-вороўка, бо так говорым.*

**ВОСТО́ЧНІК** *м.* Чалавек з Усходняй Беларусі альбо з Расіі. *Послі войны восточнікоў багато было.*

**ВОШО́Л** *м.* **1.** Гусіная вош. *Вошол на чоловеку не держыцца, бегае, бегае, да ўтекае.* **2.** *зневаж.*Нікчэмны чалавек. *Вон ек п'яны, то вошоламі ўсех бзывае, той Рысь.*

**ВУ́ТВА** *ж.* Качка. *Семанкового Мішы вутвы ў Золотцы годуюцца, любота ім.*

**ВУЖЫ́ШЧЭ** *н.* Кусок вяроўкі. *Дрова з воза россыпаліс, добрэ шчо вужышчэ некэ было с собою, да звезаў.*

**ВЫДЕ́ЛВАЦЦА** *незак.* Задавацца. *Не выделваецца нехай Коля, зразу хай поступіть.*

**ВЫ́ДРА** *ж. перан.* Непрыгожая, неахайная жанчына, дзяўчынка. *Ее дочка так нека выдра.*

**ВЫКАБЭ́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Задавацца. *Выкабэльваецца, по-рускі говорыть стараецца, да не ўмее.*

**ВЫ́ЛІВОК** *м.* **1.** Яйка без шкарлупы. *Некотра кура ў нас выліўкі губіть.* **2.** Вельмі слабы, хілы. *Слабы ее хлопэц, вылівок некі.*

**ВЫ́СКОРОК** *м.* Кавалачак смажанага сала. *Ек узяў выскорка, то не ўмочай.*

**ВЫ́ХВОТЕНЬ** *м.* Скавароднік з жытняга цеста для хлеба. *Зразу спаку выхвотня детям, а далей хлеб саджаю ўжэ.*

**ВЫ́ШКІ** *зб.* Гарышча. *Я багука на вышках хаваю, подвешваю да кроквы.*

**ВЫ́ШЧАРКА** *ж.* Той, хто скаліць, паказвае зубы. *От вышчарка, да зуба нема, да шчарбата. Закрый рота, а то нехорашэ.*

**ВЭ́ДЛУХ** *прысл.* У параўнанні. *Тепэр, вэдлух летошнёго, лето сухэе, сена можна зробіть.*

**ВЭ́ЛІК** *м.* **1.** Веласіпед. *На вэліку ў Рубэль поеду до девэра.* **2.** *перан.* Дурань. Расказваюць, што калісь жыў у вёсцы яўрэй з такім прозвішчам, і быў ён неразумны. Адсюль паходзіць гэтае слова. *Ото вэлік бажыть, утекайте, деті.*

**ВЭРЧ** *м.* Скрутак лазовай кары для пляцення лапцей. *Варчэ робілі на постолы.*

**ВЭ́ТЛА** *ж.* Від вярбы. *Вэтла лёгко колецца.*

# Г

**ГАВЭ́НДАТЬ** *незак.* Гаварыць. *А шчо-то зайшла й не загавэндала!? Мо засерділас?*

**ГА́ЛАС** *м.* Акопнік лекавы. *Галас на нізох росте, его добрэ свіням, едять вэльма.*

**ГАЛУ́ШКІ** *мн.* Клёцкі. *Я галушкі вэльма любіла, ек мала была.*

**ГА́ЛЬКА** *ж.* Начная сарочка. *Шчэ ў мане галька девоцкая лежыть.*

**ГА́МАТЬ** *незак.* Есці (*у размове з дзецьмі*). *Гамай чучу, да валікі выростеш.*

**ГА́МУЗОМ** *прысл.* Усім разам, гурбай. *Шчодрэчнікі гамузом у хату ўваліліс.*

**ГВОЗД** *м.* Вялікі цвік. *Я гвоздом добрым жэрдіну прыбіў, не одорвэцца.*

**ГВОЗДО́К** *м.* Цвік. *Гвоздок бы алюміневы, гнецца во ўсе бокі.*

**ГЖЭ́ЧНЫ** *прым.* Спраўны, прыгожы, культурны. *От хлопчэня гжэчнэ да хорошэ.*

**ГІДІ́ЦЦА** Гідавацца. *А малэ шчо, вонэ ж не гідіцца, за тэ паскудство да ў рот.*

**ГІЧ** *м.* Бацвінне. *Я кабану гіч з буракоў рву да даю.*

**ГІЧ’Е́** *н.* Бацвінне. *У бураках гіч’е.*

**ГІШЭ́ФТ** *м.* Справа, адносіны. *Я з ім зарэз ніякого гішэфту не ваду.*

**ГЛЕ́ЧЫК** *м.* Збан. *Шчарбаты глечык з молоком стоіть, вонэ кіслэ.*

**ГНЕНУ́ТЬ** *зак., экспр.* Моцна ўдарыць. *От гнену зарэ, ек будеш бушовать.*

**ГО́ДІ** *прысл.* Хопіць, даволі. *Хлопцы, годі ўжэ бушовать!*

**ГОЙНЁВАТЬ** *незак.* Быць у стане цечкі (пра авечак, сабак). *Ек гойнюе сука, то собакі розорвать могуть.*

**ГО́ЛКА** *ж.* Іголка. *Голка была копейка, а тэпэр мо сто рублей.*

**ГОЛОШЧО́К** *м.* Зямля, замёрзлая без снегу. *На дворэ такі голошчок, а вон кажэ саньмі ехать.*

**ГОРА́** *ж.* Гарышча *У нас на горэ свет е.*

**ГОРАЛЕ́Я** *ж.,* **З ГОРАЛЕ́Ю** З вялікім верхам. *Скопца насыпаў з горалею.*

**ГОРПА́** *ж.* Свірэпа. *Горпой заросло ўсе ў огороді, а вона ні шманае.*

**ГОРЧА́К** *м.* Драсён птушыны. *Вон бы пэрэц пакучы, той горчак.*

**ГО́СТРЫ** *прым.* Востры. *Нож гостры, не порэж пальца.*

**ГО́ЦАТЬ** *незак.* Моцна стукаць абцасамі. *От гоцала на васеллі, да ўпрыседы ўсе.*

**ГРА** *ж.* Гульня. *Гра не доваде до добра.*

**ГРАБЁНКА** *ж.* Прылада для збірання ягад. *Грабёнкамі ягоднік нішчыцца.*

**ГРУМЕ́ЧАТЬ** *незак.* Грэбаваць. *Мо ты грумечаеш моім порадком?*

**ГУЗЫР** *м.* **1.** Камель. *Дрова гузырамі ўпэрад ложать.* **2.** Пухліна. *На лбу гузыр выскочыў, ек вальнуўса.*

**ГУ́НУЦЦА** *экспр.* Моцна ўдарыцца пры падзенні. *Падаў на лёду да ек гунуўса.*

**ГУ́ТОРКА** *ж.* Доўгая, пустая размова. *Вы по делу говорэте, а то завалі гуторку.*

**ГЭ́БЭЛ** *м.* Гэблік. *Гэбэл стружкамі забіваецца нешчо.*

**ГЭ́НДЭЛЬ** *м.* Сумніўная справа. *Это гэндэль абыекі, не вер ему.*

**ГЭ́СТКА** *ж.* Дэталь кофты, сарочкі. *Гэстка – гэто напэрадi, на грудях ушывалас устаўка такая.*

# Д

**ДА́ЙЖЭ** *часц.* Нават. *Вон чотэры класы кончыў, а дайжэ пісать не ўмее.*

**ДЕВУ́ЛЯ** *ж., зневаж.* Дзяўчынка. *Така девуля, а вона плачэ баз матеры.*

**ДЕ́ВЭР** *м.* Мужаў брат. *Учора девэр мой прыходіў, хочэ, шоб Міша з ім ехаў на вэсну.*

**ДЕ́ЖКА** *ж.* Дзяжа. *Колісь дежка ў кажной хаті была.*

**ДЕ́ЛО** *н.* Справа. *Твое дело – езыком ляпать абы-шчо.*

**ДЕ́РАВО** *н.* Дрэва. *За ўсю жысть не посадіў дерава, шчытай, бас толку жыў.*

**ДЕРАВЯ́НКА** *ж.* Птарміка храшчаватая – расліна з цвёрдым сцяблом; другая мясцовая назва – “рэбрэй”. *Деравянку косіш то косу ўладіш.*

**ДЕРАВЯ́НЫ** *прым.* Драўляны. *Деравяна ложка рота не опекае, трэб купіть у Малгосіка.*

**ДЕРАШОВА́НЫ, ДЕРАШОВА́ТЫ** *прым.* Масць жывёлаў, звычайна коней. *У Маркуцкого конь тоўды быў некі дерашованы, Чурык купіў его потом.*

**ДЕ́ЎКА** *ж.* Дзяўчына. *Девок у Ольпэні нема, а хлопцоў морэ.*

**ДРАБІ́НА** *ж.* Лесвіца. *Зробіў учора драбіну на вышкі, стара поламалас.*

**ДРУК** *м.* Кій, палка. *Змі друка короў пасті.*

**ДУБ** *м.* Лодка. *Нема ўжэ воды, то і дубы не трэба, погнілі во ўсех.*

**ДУБЭЛЬТО́ВЫ** *прым.* Дыхтоўны, вельмі добры. *Мого зятя дача ой дубэльтова, ой хороша!*

**ДУПЛО́** *н.* **1.** Пустата ў ствале дрэва. *Дятел у дупло полез.* **2.** Адтуліна, дзірачка ў зубе. *У зубі, набіть, дупло ў мане естя.* **3.** *экспр.* Ягадзіца. *Баба шо бочка, дупло будь здороў, а вон сам усе робіть.*

**ДУСТ** *м.* **1.** Дробны парашок, пыл, попел. *У цагэльні ў пачэ дуст тачкамі вывозять.* **2.** Ядавіты парашок для знішчэння насякомых. *Колісь дустом травілі жукоў каларацкіх.*

**ДЬВЭ́РЫ** *мн.* Дзверы. *Настеж открый дьвэры, хай дым выйде.*

**ДЫХТ** *м.* Дыктоўка, указ. *Вон усе по ее дыхту робіть, нема свого розуму.*

**ДЭ́ЙКА** *ж.* Чутка. *Е дэйка, шо то вон у Ізраілі зарэз.*

**ДЯ́ННА** *ж.* Дзядзькава жонка. *Моя дянна з Валяміч, валямічанка вона.*

# Дж

**ДЖУ́ПЛАХА ДАТЬ** Адлупцавать. *От дам джуплаха, ек не послухаеш.*

**ДЖЫГАНУ́ТЬ** *зак.* Уджаліць. *Пчола джыганула, да око ўсе закрылос.*

**ДЖЫГУ́Н** *м.* Фарсун. *Шчэ малы, а ўжэ такі джыгун, у люстро, шчо деўка, зазірае.*

# Е

**Е́ЖЫК** *м.* Вожык. *Ежыка цыгане едять, наліхо ім.*

**ЕК** *часц.* Як. *Ек бачыш, збегаў у магазін.*

**ЕРЎГА** *ж.* Яр, глыбокая яма. *От еругу вода выкотловала, бач.*

**Е́СКОЛІЦЦА** *незак.* Займаць адзін аднаго, чапаць. *Деті, не ескольтеса, седете спокойно.*

**ЕТРО́ЎКА** *ж.* Братава жонка. *Моя етроўка молода, а ўся сіва ўжэ.*

# Ж

**ЖА́БОР** *м.* Забруджаная стаячая вада. *Ноч ногі ад жабору часаў.*

**ЖАЛЯ́СКО** *н.* Прас. *Шчэ ў мане е жаляско, шчо выголлем запраўлялі да палілі.*

**ЖАХА́ЦЦА** *незак.* Пужацца. *Нажахаласа ў той аварыі, да ноч не спала.*

**ЖЛЎКТО** *н.* **1.** Выдзеўбаная з драўлянай калоды пасудзіна для запарвання бялізны. *У жлукті одежу золілі коліся, попал да вода гарача да ў жлукто да гэ о, бач, так мылі.* **2.** *перан.* Пра таго, хто многа п’е спіртнога. *Набралосо жлукто, да лежыть ужэ.*

**ЖОЛУПА́ТЬ** *незак.* Прагна, паспешліва есці, глытаць *(звычайна пра птушак). От вутвы жолупають комбікорм!*

**ЖО́РОСТЬ** *ж.* Доўгая жэрдка, доўгі ствол дрэва без галля. *От жорость, на граматвода добра.*

**ЖУПА́Н** *м.* Верхняе адзенне, паліто. *Раньшэ ўсе жупан казалі, это зарэ ўжэ паліто сталі казать.*

**ЖЫД** *м.* Яўрэй. *До войны ў Ольпэні жыдоў ой маса было! Немцы іх, небурак, усех уладілі.*

**ЖЫ́ЖА** *ж.* Агонь *(у размове з дзецьмі)*. *Не чапай жыжу, а то буде вава.*

**ЖЭ́ЎЛЕТЬ** *незак.* Тлець. *Торф жэўлеў-жэўлеў ды й загорэўс-такі.*

# З

**ЗА́ЕДЬ** *ж.* Гнус, машкара. *У той год ад заеді худоба дохла.*

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м.* Сыры, недапечаны слой у хлебе каля ніжняй скарынкі. *У ее хлеб вечно з закальцэм, а вона мане вучыць!*

**ЗАЛО́ІТЬ** *зак.* Зашмальцаваць. *Рубашку залоіў, еле домыласа.*

**ЗАПО́Л** *м.* Прыпол, ніжні пярэдні край сукенкі, кашулі і пад. *Поўны запол грыбоў, бач, набрала, пока корову загнала.*

**ЗАРЭ́ЙДАЦЬ** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Неді штаны зарэйдаў у коломазь.*

**ЗАСЕ́КТІ** *зак.* Засякчы. *Трэб тепэр пеўня засекті, годі вон біўся.*

**ЗАСТОРО́НОК** *м.* Месца для сена ў хляве. *Засторонок порожні зарэз, а васна далеко.*

**ЗАТО́ЎКА** *ж.* Унутранае сала. *Коліся затоўку скачвалі ў такіе бы рулеты да солілі.*

**ЗЕЛЕНЕ́Ц** *м.* Малы шчупак. *Ек збоўталі ту копанку, то зеленцэ радамі ішлі.*

**ЗОЛІ́ТЬ** *зак.* Вымочваць адзенне ў адвары з попелу. *Зарэ мыла да стірального порошку не докупісса, то мо зноў золіть будом одежу, шчэ ж не забыліса.*

**ЗЮ́ЗЯ** *ж.* Холад *(у размове з дзецьмі)*. *Зюзя на дворэ, Пэтрык.*

# І

**І́ДОЛ** *м.* Ідал *(часцей за ўсё выкарыстоўваецца як лаянкавае)*. *Ідi спать, ідол ты, шкоднік.*

**І́МАЛЬ (І́МЭЛЬ)** *ж.* Балотная расліна, добры корм жывёлё зімой. *Коб пойшоў да імалі нажаў, мо высохла б.*

**І́МПАТ** *м.* Нейкая сіла, дух. *Да гром ек ляснуў кала мане, то мане імпатом откінуло на землю, а корова, ек я очомаўся, лежала нежыва.*

**І́РОД** *м., лаянк.* Ірад. *От, ірод, от угрыз душу.*

# К

**КАГА́ЛО** *н.* Род, племя. *У іхнём кагалі ўсе такіе, бы ты не знаеш – зімою снегу не достанеш.*

**КА́КА** *ж.* Штосьці бруднае, брыдкае *(у размове з дзецьмі)*. *Не чапай, гэто кака, кінь тютю лепш.*

**КАЛІ́ТА** *ж.* Палявая сумка. *Каліту леснік носіть, мо там еда ека, мо бумагі.*

**КАЛЮ́ГА** *ж.* Лужына. *Унь малы ў калюгу ўпаў.*

**КАПЛІ́ЦА** *ж.* Невялікі царкоўны будынак. *У нас была капліца пры Польшчы, туды ўніяты ходілі, а Советы клуба з ее зробілі, наліхо ім.*

**КАПШУ́К** *м.* Мачавы пухір у свіней. *Капшука м'ялі з попалом, да надоўвалі, да сушылі да детям забаўка была.А то шчэ его мылі добрэ, да чыстым салом залівалі.*

**КАРАЧУ́Н** *м.* Клышаногі. *Карачун гэто нога об ногу терэ.*

**КАРАЧУ́ХА** *ж.* Клышаногая. *Гэля пошла, карачуха.*

**КВА́РТА** *ж.* Металічная пасудзіна з ручкай, з якой п'юць ваду, конаўка. *Кварту воды выпіў, а молоко покінуў.*

**КВАЧ** *м.* Пэндзаль. *Быў квач да засох у красцы.*

**КЕ́ПАЛО** *н.* Дурная голова. *От кепало, по хлеб пошоў да сумку забыў.*

**КІ́ЛЁ** *н.* Кілаграм. *Кілё цукру нема шчо бачыть, а гэто ж на месец.*

**КІНО́ЎШЧЫК** *м.* Кінамеханік. *Коліся Вася Пуп кіноўшчыком быў.*

**КІРДУ́ПЭЛЬ** *м.* Малы ростам, кволы чалавек. *Не чоловек, а так, некі кірдупэль, заморок.*

**КЛЁЦ** *м.* Вялікая, цяжкая груда гліны. *Бало, у цагэльні клёцы поповарнуў.*

**КЛЕНДАТЫ** *прым.* Клышаногі. *Колісь Віктёр клендаты быў.*

**КО́ВАНІК** *м.* Спецыяльна акаваны кіёк для пераходу праз лёд. *Я с кованіком смело по Горыні іду, а так страшно, можэш проваліцца.*

**КО́ЖА МЕ́ХОМ** *прысл.* Неадкладна. *Тётка прыходіла, казала, шчоб ты кожа мехом тепэр прыйшла до іх.*

**КО́ЖМАН** *м., экспр.* Вялікі шчупак. *От кожмана поймаў у копанцы.*

**КОЖУ́ШОК** *м.* Шчупак. *Кожушок – смачна рыбіна.*

**КО́ЛЕНШЧЫНА** *ж.* Мадэпалам – від тканіны. *С коленшчыны я старому нашыла сорочок, то шчэ й зарэз естя.*

**КОЛЕСНІ́К** *м.* Невялікі воз. *У Забарэззі колеснік сена накосіў.*

**КОЛО́МАЗЬ** *ж.* Каламазь, калёсная мазь з дзёгцю, смалы і солі. *Колісь до воза подвешвалі вадерцэ с коломаззю да і возілі с собою.*

**КОПАНІ́ЦА** *ж.* Лопата. *Хрэн копала да копаніцу погнула.*

**КОСТЕРЭ́ВА** *ж.* Брыца, плашчуга. *Вэльма костерэвой бульба ў мане заростае, нема рады.*

**КОЦУБА́** *ж.* Кавенька, кій для апоры пры хадзьбе. *Дед коцубою на курэй кінуў, то воны побеглі з огорода.*

**КОШТОВА́ТЬ** *незак.* Спрабаваць на моц яйкі. *Яйца вон умее вэльма коштовать, ек выбарэ моцака на Валіконне, то ўсем параб'е.*

**КРАГЭ́ЛЬ** *м.* Здаравяка. *Мой батько крагэль быў, шчэ й зарэз жыў бы мо, коб не ўбілі немцы.*

**КРЭ́ЙДА** *ж.* **1.** Кавалак мелу, які ўжываецца да пісьма. *У школі крэйдою пішуть на дошцы.* **2.** Мел для пабелкі. *У Городку іншы раз крэйду продають, у грудках такіх.*

**КУБЛО́** *н.* Гняздо. *Яйца забрала, а поклада оставіла ў кубле.*

**КУЛЁВІК** *м.* Невялікі мяшок. *Забыласа ўзять кулёвік.*

**КУ́МАЛЕМ** *прысл.* Вельмі хутка, кулём. *Хлопэц скучыў баз матеры да кумалем до ее, ек побачыў, шо прыехала.*

**КУХА́ЙКА** *ж.* Целагрэйка. *Колісь шэсть рублей кухайка стоіла.*

**КЎ́ХЛІК** *м.* Невялікая конаўка. *Мамо, Діма кухліка розбіў. Ты набі его!*

**КЎ́ХОР** *м.* Куфар, вялікая скрынка з векам для захоўвання тканіны, адзення, каштоўнасцяў. *Ек была эвакуацыя, то я кухра закопала парад хатою, а нехто ўсе выбраў, нагледеў.*

**КУХЭ́РОК** *м.* Невялікі куфар. *У кухэрку держала оддельно парапой.*

**КУЧО́МКА** *ж.* Зімовая шапка з аўчыны. *Тепэр кучомок нема з оўчыны, не шыють.*

# Л

**ЛА́НТУХ** *м.* **1.** Рваная адзежына. *Не одевай того лантуха, кала хаты ў ём будеш.* **2.** Неахайна апрануты чалавек. *Некі пошоў чоловек лантух, мо старэц некі.*

**ЛАПЎ́ЗА** *м. і ж.* Няўклюда. *Утекай, лапуза, ты ўжэ і так побіў усю посуду.*

**ЛЕ́ДЬВА** *прысл.* Ледзь. *Ледьва прытеглас с села, ногі болять гэ.*

**ЛЕКОТЕ́ТЬ** *незак.* Трэсціся ад страху, марозу. *От лекотела я, ек побачыла, шчо немэц до нас заварнуў.*

**ЛЕ́КТРА** *ж.* Электрычнасць. *Лектра ў Ольпэні ўжэ мо годоў трыццэть е.*

**ЛЕПЭ́ТА** *ж.* Вадкая гразь. *На дворэ лепэта – не вылезті.*

**ЛЕШЧО́ТКА** *ж.* Шына для змацавання ў нерухомым стане. *Бусько ногу зламаў, а мы ее ў лешчоткі ўзелі, да зрослас!*

**ЛЕ́Я** *ж.* Вялікі лапік, што нашываецца на вопратку (на калені, на сядзенне). *Я лею на колено з сукна прышыла.*

**ЛЁХ** *м.* Склеп, пограб. *У мане ў лёсі бульба помэрзла.*

**ЛІГУМІ́Н** *м.* Ласунак. *Лігумін – гэто шчо-небудь смачнэ.*

**ЛІ́ПЭЦ** *м.* Ліпкі гной. *Гной такі ліпэц овэчы, не можна зорвать.*

**ЛІСОПЭ́Д** *м.* Веласіпед. *У лісопэді нешчо трашчыть, да пропускае, ек едеш.*

**ЛО́БУЗ** *м.* Гарбузовы ліст, наогул уся зялёная маса гарбуза. *Трэб начынать лобуз стягвать да чыстіть бульбу.*

**ЛОМЭ́Ц** *м.* Пажаданне нядобрага, ад словаў “ламаць”, “ламота”, “ломка”. *Шчоб на тебэ ломэц напаў, ты ж выдумала ўсе.*

**ЛУ́ПАС** *м.* Лупцоўка. *Ну, ольшанец, получыш ты ў мане тепэр лупаса.*

**ЛУ́ЧЧЭЙ** *прысл.* Лепш. *У гостях добрэ, а ўдома луччэй.*

**ЛЮ́СТРО** *н.* Люстэрка. *Люстро стало некэ нечыстэ, мутнэ.*

**ЛЯ́СТКА** *ж.* Невялікая тонкая дошчачка. *Хлопцы з некіх лясток собе мечэ поробілі да бегають по вуліцы, галёкають.*

# М

**МА́ГЕР НА МАГЕР** Насіць набок шапку. *Вон зроду ходіть шапку на магер.*

**МАГЛЁВА́ТЬ** *незак.* Штукарыць, рабіць што-небудзь паволі і якасна. *Ек вона градку маглюе, то мане блёвать вэрне, так корпаецца.*

**МАДЬВЕ́ДЬ** *м.* Мядзведзь. *Мой дед казаў, шчо ў нашом лесі мадьведі былі.*

**МА́ЙКА ПО́РЭ** Больш-менш добра. *У тебэ майка порэ бульба, а ў мане горох некі самы.*

**МАКО́ТРА** *ж.* **1.** Від ганчарнага посуду. *З Городной прывазлі горшкі, макотры.* **2.** *абразл.* Галава. *Ну ў тебэ й макотра, ніяка шапка не лезе.*

**МАЛЁЎШЧЫК** *м.* Каляровы аловак. *Нашчо тобе краскі, малёўшчыкамі нарысуй.*

**МАТУ́СЯ** *ж.* Хросная маці. *Моя матуся ў Лісовічах жывэ.*

**МАХА́Й МА́ХАЛОМ** Пішы прапала. *Цыганцы позычыла, то махай махалом.*

**МА́ЧУХА** *ж.* Мачыха. *Я пры мачусі годовалас.*

**МАШО́К** *м.* Мяшок. *Колісяя ўзела машок цукру, да шчэ тягнецца.*

**МІРЭ́Ц** *м.* Мярцвяк, нябожчык. *Я до іх у хату, а там мірэц на покуті лежыть, а я ж не знала.*

**МІШУ́ГІН** *м.* Дурань. Расказваюць, што жыў колісь нейкі дурнаваты чалавек у вёсцы па прозвішчы Мішугін, адсюль паходжанне гэтага слова. *Утекай, мішугін, унь люді смаюцца, а ты скачэш.*

**МЛІНЕ́Ц** *м.* Блін. *Я ў ніделю заўсёды млінцэ паку.*

**МО́ГЛІЦА** *ж.* Могілкі. *Ніхто не знае, шчо-то ў Ольпэні двое могліц.*

**МО́РДА** *ж.* Шчака. *Да одморозіла морду, да снегом натірала.*

**МОРКА́Ч** *м.* Баран пасля кастрацыі. *От моркача ўнё рогі закручаные.*

**МОЦЫКЛЕ́Т** *м.* Матацыкл. *З моцыклетом у канаву з'ехаў.*

**МОЧ** *ж.* Мача. *Моч добрэ помогае, ек порэжэш шчо чы ека ваўка.*

**МОШНА́** *ж.* Машонка. *Собака бугаю мошну порваў да мусілі рэзать.*

**МЫ́ЧКА** *ж.* Расчасаная на грэбень і згорнутая ў скрутак жменя льну. *А потом гэтые мычкі прадом.*

**МЭД** *м.* Мёд. *Мэд ніколі не портіцца.*

**МЭ́СТОМ** *прысл.* Быццам. *Я мэстом пішу, нагнуўса, шоб обманутъ іх.*

**МЭ́ТЭР** *м.* Кубічны метр, цэнтнер. *С калхоза мэтэр дроў прывазлі да й шчо хоч робі зіму.*

# Н

**НА́БІТЬ** *прысл.* Мабыць. *Набіть, дошч пойде наноч.*

**НАВЭРТІ́СА** *зак.* Намагчыся, моцна захацець. *А вон навёрса толькі коня купіть, дый годі.*

**НАВЭРЭ́ДІТЬ** *зак.* Натрудзіць, намучыць. *Ногу больную навэрэдіў, да ноч не спаў, так болела.*

**НАДЕ́ЖНІЦА** *ж.* Накрыўка з тканіны для дзежкі. *Дежка ў вуглу і надежніца на ёй.*

**НАЛЕ́ІТЬ** *зак.* Падшыць лею, вялікі лапік. *Мой Патро сам собе штаны налеіть.*

**НАЛІ́СНІК** *м.* Тонкі блін з рэдкага цеста. *Нечого ў будні день налісьнікі пакті буду, выдумаўса.*

**НАЛІХО** *прысл.* **1.** Нашто, для якой патрэбы. *Ежыка цыгане едять, наліхо ім.* **2.** На няшчасце, назло. *Шчоб тобе наліхо да тобе напусто, дурэнь ты!*

**НАСТАЎНЯ́** *ж.* Прылада для лоўлі рыбы. *Е така настаўня, а ека вона, то я не знаю.*

**НАСТЎРЧЫК** *м.* Кветка настурцыя. *Настурчыкі вэльмі хорашэ цвітуть кала школы.*

**НЕБУРА́ЧНЫ** *прым.* Небарака. *Остаўса, небурачны, як стоіть.*

**НЕГОДЯ́ШЧЫ** *прым.* Нягодны, слабы. *Мой стары зоўсем негодяшчы стаў.*

**НЕДО́ШЛЫ** *прым.* Слабы, фізічна мала развіты. *Купіла поросят пару, дьвесті тысеч оддала, а воны недошлые некіе.*

**НЕ́КІ** *займ.* Нейкі. *Некі чоловек пошоў з коцубою.*

**НЕ́КОШ** *м.* Непрыгодны для касьбы участак. *У Забарэззі век некош, сосонка, рэбрэй.*

**НЕ́КЭ** *займ.*Нейкае. *Ейцэ некэ завалялос шчэ.*

**НЕХОРЭ́МНЫ** *прым.* Вельмі непрыгожы. *У ее сын одін нішчо, а другі такі нехорэмны, страх.*

**НЕ́ШЧО** *займ.* Нешта. *Нешчо мне муляе ў чоботі, мо нуча ссунулас.*

**НІЗЫ́СТЭР** *прысл.* Быць вельмі падобным. *Дочка нізыстэр маті, добрэнная ўдалас.*

**НОСТРА́МОК** *м.* Невялікі воз сена. *У калхозі получыў цэлы ностраммок, выкормім.*

**НО́СЦА ДАТЬ** Даць выспятка. *Білі носцамі по чом попало небураку.*

**НЎЧА** *ж.*Ануча. *Добра нуча да постолы, да ногам любота, бало.*

# О

**ОБЭ́РТУХ** *м.* Легкадумны, шустры. *Не будь ты обэртухом, думай, шчо робіш.*

**ОГЛОБЭ́ЛЬНІК** *м.* Той, хто цяжка працуе, “запрагаецца ў оглоблі”. *Оглобэльніку луччы кусок м’яса давалі, а не детям.*

**ОКОШЫ́ЦЦА** Засцерагальны выраз. *Хай вонэ на гэтом і окошыцца, то шчэ слава Богу.*

**ОЛЬПЕ́НЕЦ** *м.* Альпенец, жыхар в. Альпень. *Ольпенца я по мові ўсюды познаю.*

**ОСТРАБО́К** *м.* Ястрабок. *Острабок курэнят похапае, трэба ў хлеў загнать.*

**ОТРАБЯ́НКА** *ж.* Каўбаса з вантробаў. *Я отрабянку люблю, ек мало пачонкі ў ёй.*

**ОЎТО́РОК** *м.* Аўторак. *У оўторок выходны ў мого хлопца.*

# П

**ПАЗУ́Р** *м.* Ногаць. *Пыд пазурамі гразь, а вона красіть іх.*

**ПАЛЮ́ТКА** *ж.* Палавінка гарбуза. *Выбрала тры палюткі, у чыгун зложыла.*

**ПА́НЧЭРЫЦА** *ж.* Падчарка. *Я годовалас баз матеры, панчэрыцою была.*

**ПА́ПА** *ж.* Хлеб *(у размове з дзецьмі)*. *Еш папу з молочком, сыночок, гамай.*

**ПАРА́Д** Перад. *Парад постом буде.*

**ПАРАПО́Й** *м.* Вясельны падарунак. *Я ек матуся мушу на парапой мільён положыть.*

**ПІ́ПА** *ж.* Вада *(у размове з малымі дзецьмі). Не іді ў піпу, сынок, намочыш ножкі.*

**ПЛЕШНІ́К** *м.* Аер. *На Тройцу плешнік стелють усюды.*

**ПОЛЁВАТЬ** *незак.* Быць у стане цечкі *(пра кароў). Набіть, моя корова полюе, нешчо вэльма рыкае.*

**ПОСТО́Л** *м.* Лапаць. *Постолы ў мане на горышчы шчэ валяюцца.*

**ПО́ТЯЗЬ** *ж.* Прасніца для воўны. *Потязь естя ў бабы Зоркі шчэ, я бачыла.*

**ПО́ХВАТ** *м.* Раптоўны парыў ветру. *Похват ішоў, да стожка ростерушыло ўсёго.*

**ПУХЛЯ́К** *м.* Ужываецца пры сварцы. *Шчоб тебэ пухляк узяў!*

**ПЫ́ДЛЕТОК** *м.* **1.** Падлетак. *Ек хлопэц шчэ не дорослы, але ўжэ й не дітя, то пыдлеток, от до годоў семнаццаті.* **2.** Птушаня, якое вучыцца лётаць. *Ластоўчэнята ўжэ пыдлеткі.*

**ПЫ́ДМАЗКА** *ж.* Падмазка. *Я пыдмазку твою коту оддала.*

**ПЭ́РВЫ** *ліч.* Першы. *Пэрвы раз такэ тепло.*

**ПЭ́РГАЛО** *н.* Той, хто робіць справу вельмі павольна, корпаючыся. *Не маглюй, пэргало, нема шоб раз-два і готово.*

**ПЭ́ЦАЛЬ** *м.* Зневажальная назва, зварот. *Ты протіў мане пэцаль, моўчы хоть.*

**ПЭ́ЦКАЛО** *н.* Той, хто робіць што-небудзь брудна, неахайна. *Не воруш, я сама, ты некэ пэцкало, а не роботнік.*

# Р

**РА́ДІВО** *н.* Радыё. *За радіво грошы з пенсіі одварнула почтальёнка.*

**РАМАТІ́З** *м.* Рэўматызм. *Од гэтой гумы раматізом заболееш шчэ.*

**РАПЭ́НЯ** *ж.* Жаба-рапуха. *От я тых рапэней гіджуса.*

**РАХУ́БА** *ж.* Вынік, падлік. *Тут проста рахуба – кілё мукі за літэр.*

**РАШАМЭ́ТА** *ж.* Прылада для зімняй лоўлі рыбы. *На полонкі ставілі рашамэту, да вэльма в'юны ішлі, бало.*

**РО́ВАР** *м.* Веласіпед. *У Городок мо коб роварэм з'ездіў.*

**РОЗДВО́** *н.* Раство, Божае Нараджэнне *На Роздво морозу ніяк не было, одліга, с стрэх капало.*

**РОЗБІРА́ЦЦА** *незак.* Распранацца. *Пора тобе, Коля, розбірацца да ложыцца спать, деў'еть часоў зарэ.*

**РОЛЛЯ́** *ж.* Ралля. *Парасохла ролля, дождж гвалт трэба.*

**РОПА́** *ж.* **1.** Моцны раствор солі. *У ропе стёгна вымочвають.* **2.** Выдзяленні з роту нябожчыка. *У мірца ропа з рота, бывае, іде.*

**РОСЧАХНУ́ТЬ** *зак., экспр.* Разарваць. *Я за тые брэхні росчахну ее.*

**РО́ХЛЯ** *м.* Бесхарактарны, падатлівы чалавек. *А вон там хазяін? Так, нека рохля, Паўка командуе ўсем.*

**РУБЭ́ЛЬ** *м.* **1.** Рубель – грашовая адзінка. *Тепэр за рубля одна спічка выходіть.* **2.** Рубель – жардзіна для ўціскання сена на возе. *Увязвалі сено, да рубэль поломаў-*

*са.* **3.** Рубель – вёска ў Столінскім раёне. *Тепэр у Рубле нешчо горэло.*

**РЫ́ХТІК** *прысл.* Якраз, дакладна, вельмі падобна. *Быцочка отеліла рыхтік бы летося, рабэнького.*

**РЭБРЭ́Й** *м.* Птарміка храшчаватая – лугавая расліна з цвёрдым сцяблом; іншая мясцовая назва “дераванка”. *Рэбрэй косіть – то косу ўладіш і сам уладісса.*

**РЭЧЭНЕ́Ц** *м.* Канец. *На гэтом, свахо, рэчэнец. Договорыліс.*

**РЭ́ШТА** *ж.* Тое, што засталося. *Жонко, ты рэшту забыласа ўзять.*

# С

**САЛІ́НА** *ж.* Кусочак сала. *Е саліна да хлебіна, то шчэ не бада.*

**САМОТУ́ЖКІ** *зб.* Невялікія сані. *Бало, самотужкамі дрова попотягалі.*

**САМОШЭ́ЧЧЫ** *м.* Вар’ят. *Кірылко ек п’яны, то самошэччы.*

**САРА́ТА** *ж.* Цырата. *Я сарату на почті купіла, там дешавей.*

**СВЭ́ДЭР** *м.* Світэр. *У цыганкі свэдра купіў.*

**СВЭ́РДЁЛ** *м.* Свярдзёлак. *Некому свэрдёла оддаў, да не помню.*

**СЕДРО́** *ж., абразл.* Мянушка чалавека, шырокага ў касцях, з вялікай тазавай часткай. *Седро зноў на полі, бач.*

**СЕРАЎНО́** *прысл.* Усё роўна. *Кажы ему, не кажы, вон сераўно свое право правіть.*

**СЕ́РКА** *ж.* **1.** Малодзіва. *Шчэ молоко серкою оддае.* **2.** Абмазка запалак. *Колісь запалку разом з серкою на две часті кололі.*

**СІ́КЭЛЬ** *м.* П'яніца. *Мой сікэль поўзе п'яны.*

**СКАДА́ВЭЦ** *м.* Клінок для адціскання сыру, тварагу. *Мо коб з мэрлі скадаўца пошыть?*

**СКАНДАЛА́** *ж.* Невялікая колькасць, частка; зусім мала. *За той месец добавілі неку скандалу до пенсіі.*

**СКО́ЛОК** *м.* **1.** Асколак. *Стекло на дробные сколкі розбілос.* **2.** Дурань, недарэка. *Ты сколок, шо ты наробіў, га?*

**СКОПЭ́Ц** *м.* Капец. *Мой стары ўжэ скопца гноем обложыў.*

**СКРЭ́ДОМА** *прысл.* Пайсці невядома куды, загінуць. *Поехаў Пашкевіч да й пропаў скрэдома.*

**СКУНДЯ́БІЦЦА** *зак.* Згорбіцца, сціснуцца. *От скундябіўса, бы немавэсті екі мороз.*

**СМАЗАНУ́ТЬ** *зак., экспр.* Моцна ўдарыць. *А той не вытерпеў, да ек смазануў ему по морді.*

**СМАТА́НА** *ж.* Смятана. *Нека горка сматана, гэто парад теленнем ужэ.*

**СМАХОЎЕ́** *н.* Смехаўе. *От тобе і ольпенскэ смахоўе.*

**СОКЕ́РА** *ж.* Сякера *Я сокеру наточыў у кузні ў Пэнчыка.*

**СОПЛІ́ВЭЦ** *м.* **1.** Від рыбы, пакрытай сліззю. *У Горыні под прымолом кала Стасіхі сопліўцы вудяцца.* **2.** *пагард.* Нявопытны чалавек, які мала ведае жыццё; малакасос. *Такі соплівэц вучыть мане!*

**СПЛЕ́ННЕ** *н.* Успенне. *Нашу цэркоў колісь на Сплення осветілі.*

**СПОНІ́ЦА** *ж.* Спадніца. *Споніца цветаста не для старой жонкі.*

**СТА́РЭЦ** *м.* Жабрак. *Колісь, помню, старцэ да старчанкі бас конца ходілі по хатох.*

**СТАРЧА́НКА** *ж.* Жабрачка. *После войны старчанок было багато.*

**СТЕГНО́** *н.* Бядро. *Штаны ўнь порваў да стегно бачно.*

**СТЕ́ЖАРОК** *м.* Адонак – подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог; стажар'е. *Тепэр у колхозі сено, шчытай, баз стежарка кладуть у стожок.*

**СТО́ЎБ** *м.* Слуп. *Кала цэрквы ветёр стоўба выварнуў.*

**СТЭМП** *м.* Туалет. Ад польскага "ўстэмп". *Полякі застаўлялі, шчоб стэмп быў у кожного хазяіна.*

**СУ́ТКІ** *зб.* **1.** Адзінка вымярэньня часу. *За суткі ў Пінск і назад ворочаўса дед той.* **2.** Прастора паміж дзьвума блізка размешчанымі пабудовамі. *Свіня ў сутках усе парарыла, халера.*

**СЦУ́ЛЯ** *прысл.* Адсюль. *Вадім сцуля пошоў до клуба.*

**СЫРО́ЎКА** *ж.* Неабпаленая цэгла. *Грубкі з сыроўкі робілі.*

# Т

**ТА́ЛОВАТЬ** *незак., экспр.* Знішчаць. *Уворваліса ўчора калхозные телушкі ў огород, да ўсе ўталовалі. А пастух п'яны!*

**ТА́МАКА** *прысл.* Тое ж, што і там. *Я тамака, у том селе, не быў ніколі.*

**ТАРАГОНЕ́ТЬ** *незак.* Барабаніць, стукаць. *Ужэ тарагоняць возы, на базар рубэльцы едуть.*

**ТАРАДА́ЙКА** *ж.* Скрынка для ягад. *Тарадайкі робілі з тонкіх дранок такіх.*

**ТАТУ́СЬ** *м.* Хросны бацька. *Мой татусь умэр даўно.*

**ТЕЛЯ́** *н.* Цялё. *Тепэр здалі теля ў Федоры, прымаў Карэйцоў зять зноў.*

**ТОВА́Р** *м.* Статак. *Мо товар на поўдень тепэр прыжануть?*

**ТО́ЧКА** *ж.* Мядзведка. *У мане точкі вэльма шкоду роб'ять у огороді, усе боком кладуть.*

**ТРУ́ПАСОК** *м.* Труха, пацяруха. *У засторонку самы трупасок, некэ сено паратерлос вэльма.*

**ТРУЯ́** *ж.* Труха. *Я трую з сена гусям запарваю.*

**ТРЫБЛА́ТЫ** *прым.* Шырокі ў касцях, тоўсты, рыхлы. *Корова стара, трыблата наша.*

**ТУ́БОЛЕЦ** *м.* Мясцовы жыхар. *Ужэ вон тут тубольцэм стаў, даўно ў Ольпэні жывэ.*

**ТУСК** *м.* Пот, вільгаць. *Бач, ека гарачка, аж туск з его іде.*

**ТЫ́ЖДЖЭНЬ** *м.* Тыдзень. *Тыжджэнь тому машок цукру ўзяў у Городку на базары.*

**ТЭ́БЭЛЬ** *м.* Драўляны гвозд для змацавання бярвенняў у пабудове. *Баз тэбля хату не зробіш, стена выварнецца.*

**ТЭ́ЧКА** *ж.* Сумка, партфель. *З тэчкой, бы начальнік, Колюк ходіть.*

# У

**УЖЭ́** *прысл.* Ужо. *Ужэ світае, а я шчэ не спала.*

**УЛА́ДІТЬ** *зак., экспр.* Знішчыць, загубіць. *Уладіў часы, майстер найшоўса, ліхо твоей матеры!*

**УРО́К** *м.* Сурок. *Мо то некіе ўрокі чы шчо, шчо вон так хворэе?*

**УРУ́Н** *м.* Азімыя пасевы. *Короў на ўруне калхозном пасуть.*

# Ф

**ФА́ЙНО** *прысл.* Добра, хораша. *От файно на тобе гледіцца гэты пінджак.*

**ФЭ́НІК** *м.* Грашовая адзінка (ад пфенінг). *У хаті ні фэніка нема, усё ў зберкасі.*

# Х

**ХОРО́МЫ** *мн.*Пабудовы. *Его хоромы непродажные, бо спорные, на двох воны.*

**ХУ́ДЖЭЙ** *прысл.* Горш. *Поба, шчэ худжэй снег пошоў.*

**ХУМО́Р** *м.* Гумар. Быць не ў хуморы – быць без настрою. *Нешчо ты тепэр не ў хуморы.*

# Ц

**ЦАГЭ́ЛЬНЯ** *ж.* Завод па вырабу цэглы. *Мо на цагэльні магазіна нема зарэз?*

**ЦАДЕ́ЛКА** *ж.* Цадзілка. *Коб мэрлі на цаделку достать.*

**ЦО́ЛДА** *ж.* Вялікі кавалак. *Юра Надін таку цолду мяса зараз з'еў, коб вы бачылі!*

**ЦЎРКА** *ж.* **1.** Гульня **2.** Драўляная палачка пры гульні ў цуркі. *Гралі ў цуркі, да цуркою воко ему выбіло.*

**ЦУРЎПАЛОК** *м.* Цурбалак. *Змі кія за товарэм, а то ўзяў некого цурупалка.*

**ЦЫ́МЭС** *м.* Смаката; від ежы (з яўр. мовы). Часта "цымэсам" называюць любую смачную страву. *На дне самы цымэс, сама смакота засталаса.*

**ЦЭ́НТЭР** *м.* Вялікі цяслярскі свярдзёлак. *Коб цэнтэр да сталюгу зробіть.*

**ЦЭ́РКОЎ** *ж.* Царква. *Ольпенской цэркві сто з лішнім год.*

# Ч

**ЧАМПІЁН** *м.* Шампіньён. *Шо то ў гэтом году чампіёноў нема?*

**ЧАПЛЯЯ́** *ж.* Чапяла. *Мамо,я боюс чапляею скоўроду брать, коб не ўпала.*

**ЧО́БОТ** *м.* Бот. *Гумовые чоботы некудою текуть.*

**ЧОЛОВЕ́К** *м.* **1.** Чалавек. *Некі чоловек потягса ў Городок.* **2.** Муж. *Мой чоловек не п'е гарэлку, слава Богу.*

**ЧУМАЙДА́Н** *м.* Чамадан. *Чумайдана сам зробіў, з фанеры.*

**ЧЎХРА** *ж.* Неахайная, непрыбраная жанчына. *Прышла ў магазін бы чухра ека.*

**ЧЎЧА** *ж.* Мяса *(у размове з дзецьмі). Вася, на чучу, еш, да будеш бы тато.*

# Ш

**ШВО́РЭНЬ** *м.* Шворан – стрыжань у паваротным злучэнні пярэдняй часткі кузава павозкі, які забяспечвае павароты на хаду. *Для воза швораня ў кузні зробіў Пэнчык Васіль.*

**ШВЭ́НДАТЬ** Хадзіць без толку. *Не швэндайся туда-сюда, іді за хлебом, мо прывазлі.*

**ШМО́ЙЛО** *н.* Дрэнна, неахайна апрануты. *Да не іді ў село, бы шмойло, штаны хоть змані.*

**ШМЭ́РГАЛО** *н.* Той, хто робіць справу неахайна, неакуратна.*От шмэргало, як ты косу поклепаў? Вона ж горш тупая стала.*

**ШО́ПА** *ж.* Навес, павець. *У шопах у цагэльні сыроўку сушылі.*

**ШОСА́** *ж.* Шаша. *У Рубле ўжэ кругом шоса, не то, шо ў Ольпэні.*

**ШУЛЯ́К** *м.* **1.** Драпежная птушка. *У мане шуляк курчэня ўхопіў учора.* **2.** Дурнаваты чалавек. *Вон шуляк некі, ніяк до вучобы не здатны.*

**ШЧОДРОВА́ТЬ** *незак.* Шчадраваць, хадзіць па дварах у калядныя вечары, віншаваць гаспадароў, спяваючы калядныя песні. *Діма Данілов ніколі не шчодроваў, мабіть. Вон кажэ – сором.*

**ШЧОДРЭ́Ц** *м.* Каляды. *Тепэр то на Шчодрэц грошы давай, а колісь сало давалі, мясо, пірога, зернет екіх.*

**ШЧОДРЭЧНІК** *м.* Каляднік. *До мане шчодрэчнікі ўжэ прыходілі.*

**ШЫ́БКА** *ж.* Шыба. *У школі тепэр у нашом класі шыбку ўставілі.*

**ШЭ́ЛЕГ** *м.* Грошы, дробная манета. *У хаті ні шэлега нема, а до пенсіі шчэ далеко.*

**ШЭЛЕХТА́ТЬ** *незак.* Казытаць. *Шо ты, мо шэлехчэш его, то ж ты его зашэлехчэш!..*

**ШЭ́НДЯ** *ж.* Малярыя. *Зарэз шэндею не болеють, вывалі ее неяк.*

# Ю

**ЮРО́К** *м.* В'юрок. Прылада для намотвання клубка нітак. *У мане на горэ неді юрок у стрэху е затыканы.*

# Я

**Я́СІК** *м.* Маленькая падушачка. *Я зайшла, а Сережа спіть собе, ясіка под голову положыў.*

